










АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

24 мая 2000 года
Цана 75 рублёў

№ 21 (2683)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## ЛЕКІ «АД ПРАБЛЕМ»

### ІХ РЭЦЭПТ ВЕДАЮЦЬ НА БАРЫСАЎСКІМ ЗАВОДЗЕ МЕДПРЭПАРАТАЎ

**Словы, якія вынесены ў загаловак, — зразумела, усяго толькі жарт. Але хацелася б, каб сёння ўсур'ёз на прадпрыемствах краіны ўмелі працаваць так, як гэта робіцца на Барысаўскім заводзе медпрэпаратаў. "Праблемы — рухавік жыцця і прагрэсу", — гаворыць Вячаслаў Драніца. Ён з 1989 года ўзначальвае фармацэўтычнае прадпрыемства, і зрухі, што адбыліся за гэты час у жыцці БЗМП, значныя.**

● **Вячаслаў БЯЛУГА, "Рэспубліка".**

Барысаўскія "Медпрэпараты" адзначаюць сёлета сваё 35-годдзе. А пачыналася ўсё з невялікай фармацэўтычнай фабрыкі, якая за чатыры гадыператварылася ў прадпрыемства саюзнага значэння. З 1988 года тут утрая павялічыўся калектыў і ў пяць разоў аб'ём вытворчасці.

Мінулы год, як, дарэчы, і папярэднія, быў даволі ўдалым для завода. Напрыклад, тэмпы росту, аб'ёму вытворчасці склалі 126,8 працэнта. Прадпрыемства выпусціла 482 мільёны штук лекавых прэпаратаў на суму 5 трыльёнаў 111 мільярдаў недэнамінаваных рублёў.

Так ужо склалася: фармацэўтычная вытворчасць даволі валютаёмістая. Не толькі ў Беларусі, але і ў былым СССР не было сваіх сур'ёзных вытворцаў фармацэўтычных субстанцый, карацей кажучы, сыравіны для лекавых прэпаратаў. 70 працэнтаў яе набывалася за мяжой — у Германіі, Індыі, Кітаі і Японіі. Таму без экспарту, які дае валюту, абысціся складана.

Асноўныя пакупнікі прадукцыі БЗМП — у Расіі, Казахстане і Прыбалтыцы. На жаль, экспартаваць медпрэпараты за межы СНД пакуль не ўдаецца. І справа тут не ў якасці, а ў падыходах з боку краін далёкага замежжа да закупкі лекавых прэпаратаў. Заходнія рынкі прад'яўляюць зусім іншыя патрабаванні да замежных вытворцаў, чым да сваіх. Гэта і кабальнае падаткаабкладанне, яшчэ больш жорсткія, чым для суайчыннікаў, патрабаванні разнастайных кантралюючых органаў, устаноў аховы здароўя.

— Тым не менш, мы і тут шукаем сваю нішу, — гаворыць Вячаслаў Драніца.

У 1992 годзе разам з нямецкай фірмай "ФразеніусАГ" на БЗМП створана сумеснае прадпрыемства "Фрабор". 98 працэнтаў "штучных нырак", якія тут вырабляюць, ідуць на заходнія рынкі. З польскай фірмай "Польфа" арганізавана сумесная вытворчасць чатырох прэпаратаў.

Цікавая асаблівасць: БЗМП не пускаюць на рынкі далёкага замежжа, але тым не менш, прадпрыемства ў 1995—1996 і 1998 гадах атрымлівала міжнародны прыз — "Брыльянтавую зорку за якасць". Вячаслаў Драніца лічыць, што заходні свет пільна сочыць за беларускімі вытворцамі, і іх намаганні, поспехі не застаюцца не заўважанымі спецыялістамі.

Канкурэнцыя сярод фармацэўтычных фірм вялікая. У ліку 300 прадпрыемстваў аналагічнага профілю ў СССР барысаўскае стабільна ўваходзіла ў дзесятку лепшых. Трымаць марку ўдаецца і да гэтага часу. А таксама атрымліваць перамогу ў жорсткай цэнавай барацьбе. На гэта накіраваны намаганні спецыялістаў, якія сваімі распрацоўкамі штогод зніжаюць сабекошт лекавых прэпаратаў.

— Стараемся поўнасцю задаволіць патрэбы Міністэрства аховы здароўя Беларусі, каб прэпараты, якія вырабляем самі, не набываліся за мяжой, — гаворыць В. Драніца. — Для гэтага пастаянна вядзём кансультацыі ў рамках канцэрна "Белбіяфарм", узгадняючы аб'ёмы паставак.



Барысаўскімі фармацэўтамі асвоена каля 200 тэхналогій. Навуковыя інстытуты, якія раней займаліся распрацоўкай новых прэпаратаў, засталіся ў Расіі і Украіне. І тут дарэчы прыйшлося супрацоўніцтва з Белдзяржуніверсітэтам. Сумесна з адной з кафедраў універсітэта была створана новая лабараторыя. За пяць гадоў удалося стварыць цэлы накірунак у распрацоўцы новых лекавых форм. Асобныя з гэтых прэпаратаў увайшлі ў дзяржаўную навукова-тэхнічную праграму па данай тэматыцы. Найбольш цікавыя распрацоўкі — лекавыя плёнкі на аснове полікапрана. Яны валодаюць не толькі здольнасцю зажыўляць раны, але і самаразыходзяцца. На аснове полікапрана ці акісленай цэлюлозы можна распрацоўваць цэлую гаму лекавых прэпаратаў. А значыць, знойдзены новыя магчымасці ў гэтым напрамку — створаны новыя мазі, якія валодаюць цудоўным загойваючым эфектам пры парушэнні скураных пакроваў чалавека. Тут думаюць таксама над распрацоўкай шоўных нітак, якія выкарыстоўваюцца пры хірургічных аперацыях. А яшчэ на БЗМП выпускаюць эсціфан — прэпарат па вываду радыенуклідаў. Ён значна павышае імунітэт чалавека, таму шырока прымяняецца ў прафілактычных мэтах.

Пастаянна на патоку знаходзіцца каля 160 лекавых форм. Не так многа, як хацелася б, калі ўлічваць, што ў медыцынскай практыцы прымяняецца звыш 3—4 тысяч. Як бачна, поле дзейнасці шырокае. Сёння БЗМП вядзе рэканструкцыю адной з асноўных вытворчасцей — таблетачнай, што дазволіць павялічыць аб'ёмы і пашырыць наменклатуру прадукцыі.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар Барысаўскага завода медпрэпаратаў Вячаслаў ДРАНІЦА (у цэнтры) у час знаходжання ў Празе.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## УКРАІНА

Споўнілася чатыры гады, як створана харкаўскае рэгіянальнае нацыянальна-культурнае таварыства беларусаў "Белая Русь".

Вельмі добра, што нацыянальныя меншасці, якія жывуць на тэрыторыі Украіны, маюць магчымасць аб'ядноўвацца ў таварыствы. Але ў той жа час пастаянна пераконваюся: без падтрымкі з боку ўлады і этнічнай Радзімы нацыянальна-культурныя таварыствы вялікіх поспехаў не маюць.

Аб недахопах і праблемах у рабоце нашага таварыства многа гаварылася на выніковым сходзе, у якім прымалі ўдзел прадстаўнікі Харкаўскага гарвыканкама, ганаровы прэзідэнт асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Украіны Я. фон Блюме, старшыня праўлення рускага нацыянальна-культурнага таварыства "Русь" В. Буканёва.

Са справаздачай аб рабоце праўлення выступіла яго старшыня Т. Лаціна.

Згодна з перапісам насельніцтва 1989 года, у Харкаўскай вобласці пражываюць 22,9 тысячы грамадзян беларускай нацыянальнасці. З іх 41,2 працэнта лічаць сваёй роднай мовай беларускую. Але, на жаль, як адзначалася ў выступленнях, для развіцця нацыянальнай культуры і мовы робіцца вельмі мала. Няма ў нас ніводнай нават нядзельнай беларускай школы. Вырашыць такія пытанні на адным энтузіязме не атрымліваецца. Тут павінна быць зацікаўленасць на дзяржаўным узроўні.

На сходзе былі ўнесены змяненні ў статут. Галоўным з'яўляецца ліквідацыя пасад прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта таварыства.

У склад новага праўлення выбраны: У. Абраменка (старшыня праўлення), В. Астаповіч, Т. Лаціна (намеснікі старшыні), А. Дронь, В. Панасоўская, С. Сылка, М. Цімашкоў.

У час сходу было бачна, што ўсе члены таварыства шчыра жадаюць ажыццявіць свае планы і надзеі, быць годнымі прадстаўнікамі сваёй вельмі прыгожай Радзімы — Беларусі.

**В. АСТАПОВІЧ,**
**намеснік старшыні праўлення таварыства "Белая Русь".**
Харкаў.

СПОРТ

## ЗНОЎ — ТОЛЬКІ ДЗЕВЯТЫЯ

**14 траўня ў Санкт-Пецярбургу завяршыўся чэмпіянат свету па хакею перамогай зборнай Чэхіі, якая ў фінале згуляла са зборнай Славакіі з лікам 5:3 і другі год запар стала чэмпіёнам свету.**

Зборная ж Беларусі перамагла ўкраінцаў (7:3) у першым матчы ў сваёй групе, затым уступіла латышам 3:6 і шведам 0:7. Але нягледзячы на дзве няўдачы, выйшла ў наступны этап, дзе перамагла расіян (1:0) і швейцарцаў (6:3), уступіўшы ЗША (0:1). Гэтых дзвюх перамог беларусам не хапіла, каб выйсці ў чвэрцьфінал. І зноў, як і на мінулым чэмпіянаце свету, наша зборная ўзяла дзявятае месца.

Каменціруючы выступленне зборнай Беларусі, галоўны трэнер нашай каманды А. Варывончык сказаў, што выступленнем і задаволены, і не: "Задаволены трыма матчамі на другім этапе і тым, што ўдалося абыграць моцную зборную Расіі, але ж не задаволены тым, што галоўную задачу не выканалі — у васьмёрку не трапілі. Аднак усё ж такі радуе, што пасля двух паражэнняў на першым этапе каманда не апусціла галавы, а ўсхамянулася і змагла дастойна закончыць чэмпіянат".

Лепшымі ігракамі зборнай Беларусі на гэтым чэмпіянаце былі прызнаны Алег Раманаў, Руслан Салей і Уладзімір Цыплакоў. Апошні ж стаў яшчэ і лепшым бамбардзірам каманды, набраўшы 5 ачкоў (3+2).

Спецыялісты адзначылі, што, нягледзячы на дастойнае выступленне, зборная Беларусі магла згуляць лепш. Але каманду падвяла псіхалагічная "нясталасць": ці то самаўпэўненасць, ці то боязь абыграць каманды "вялікай шасцёркі". Хочацца верыць, што ў наступным годзе беларускія хакеісты змогуць выступіць значна лепш.

Як ужо стала вядома, наступнае сусветнае першынство стартуе ў красавіку будучага года ў Германіі. Зборная Беларусі зноў трапіла ў групу "А" разам з камандамі Чэхіі, Швейцарыі і Германіі. 28 красавіка, у першы дзень чэмпіянату, нашы будуць гуляць у Нюрнбергу з сёлетнімі ўладальнікамі залатых медалёў.

**Андрэй САМЕЦ.**

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ

# «У ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ КОЖНАЕ СЛОВА ПАВІННА БЫЦЬ УЗВАЖАНЫМ»

**"Беларуская Энцыклапедыя" заўсёды лічылася важкім і досыць прывілеяваным выдавецтвам: сапраўды, тут рабіліся асаблівa значныя для краіны кнігі — выпускалі беларускую энцыклапедыю. Але час ідзе, змяняецца жыццё, няма ўжо той прывілеяванасці, аднак на паліцах беларускіх кнігарань з зайздроснай рэгулярнасцю з'яўляюцца чарговыя тамы ўжо новай — цяпер 18-томнай, айчыннай універсальнай энцыклапедыі — своеасаблівага "пашпарта" краіны, як лічыць галоўны рэдактар выдавецтва, пісьменнік, паэт Генадзь ПАШКОЎ.**



**— Генадзь Пятровіч, дык чым жа сёння жыве і збіраецца жыць надалей "Беларуская Энцыклапедыя"?**

— Адказ на ваша пытанне я пачну, можа, крыху здалёк. Значэнне слова "энцыклапедыя", грэчаскага паходжання, перакладаецца як "кола ведаў". Калі гаварыць пра нашу нацыянальную энцыклапедыю, яе вытокі трэба шукаць у сярэдніх вяках, яшчэ ў глосах Францішка Скарыны, тлумачэннях да яго тэкстаў. Ну а больш-менш сфарміраваная энцыклапедыя, якая адпавядае пэўным патрабаванням, на Беларусі з'явілася, па сутнасці, у 27-м годзе, калі выйшаў даведнік "Беларуская Савецкая Рэспубліка", складзены па энцыклапедычным прынцыпе.

У 32-м годзе пры цяперашняй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі была створана энцыклапедычная рэдакцыя, дзе і збіраліся выпусціць універсальную энцыклапедыю новай дзяржавы. Звычайна, перш чым выйдзе энцыклапедыя, на кожны том складаецца адпаведны слоўнік: тэрміны і кароткая расшыфроўка. Гэта вялікая праца. Дык вось, дзесьці праз тры гады, у 35-м, ужо было падрыхтавана дзевяць такіх слоўнікаў. Але, на вялікі жаль, абставіны — тыя ж рэпрэсіі, што ў 30-х гадах пракаціліся па Беларусі, а яшчэ ў большай ступені — вайна ўсяму перашкодзілі.

І толькі ў 1969-м новае выдавецтва "Беларуская Савецкая Энцыклапедыя", якое тады ўваходзіла ў склад Акадэміі навук, абвясціла пра выхад першага тома "Беларускай Савецкай Энцыклапедыі". Цалкам завяршылі выпуск у 1975-м годзе.

З тае пары (нам ужо за трыццаць год) выйшла вельмі багата кніг: толькі адных энцыклапедычных і даведачных каля паўтысячы назваў.

Сёння Беларусь, дзякуючы нашаму выдавецтву — даруйце за нясціпласць, — зрабілася адной з найбольш развітых энцыклапедычных дзяржаў. Яшчэ гавораць, і я лічу гэта справядлівым, энцыклапедыя, як і нацыянальны гімн, сцяг, канстытуцыя, з'яўляецца адным з атрыбутаў дзяржавы.

**— Відаць, ваша выдавецтва і зараз захоўвае пэўную адметнасць?**

— Так, мы спалучаем навукова-даследчы інстытут інфармацыйнага характару і прадпрыемства па выпуску кніг, асноўная частка якіх робіцца непасрэдна тут, у сценах гэтага будынка, у той час як іншыя нашы калегі адразу працуюць з аўтарскімі рукапісамі.

**— Генадзь Пятровіч, а ці шмат выдаўцоў-энцыклапедыстаў засталося на колішняй савецкай прасторы?**

— Сапраўды, у канцы 60-х — пачатку 70-х у рэспубліках СССР пачалі ствараццa нацыянальныя энцыклапедыі. Найбольш развітымі, акрамя лідэра — "Вялікай Савецкай Энцыклапедыі", былі энцыклапедычныя выдавецтвы Беларусі, Украіны і краін Прыбалтыкі. Працавалі, канешне, і ў Сярэдняй Азіі, Закаўказзі. Сёння ж з усіх гэтых выдавецтваў найбольш упэўнена пачуваюць сябе, я б сказаў, толькі тры: расійская, беларуская і эстонская энцыклапедыі. У астатніх рэспубліках справа амаль заглохла або і зусім спынілася. Праўда, у Арменіі пачынае ажываць, і ў Літве ёсць навукова-даследчы навукова-энцыклапедычны інстытут. Вось там таксама маюць намер цвёрда стаць на ногі і выпускаць свае новыя нацыянальныя энцыклапедыі.

**— Зразумела, ваш галоўны сённяшні клопат — новая універсальная энцыклапедыя. Чым жа яна адрозніваецца ад сваёй папярэдніцы БелСЭ, якая па праву можа лічыцца класікай беларускага кнігавыдання?**

— Калі параўнаць тую 12-томную энцыклапедыю і цяперашнюю, распачатую з 1996-га года, розніца каласальная. У першую энцыклапедыю ўваходзіла 35 тысяч знакаў, у новую — 80. Значна палепшылася якасць ілюстрацый: зараз яны ў асноўным каляровыя. Да таго ж яшчэ адна немалаважная акалічнасць: раней на падачу матэрыялаў вялікі ўплыў мела ідэалогія, зараз такога няма. І калі параўноўваць ключавыя артыкулы, якія тычацца філасофіі, палітыкі, адрозненне відавочнае. Сёння наша энцыклапедыя — разняволеная.

**— Між тым, менавіта апошнімі гадамі тая ж гісторыя зрабілася даволі палітызаванай сферай.**

— Я абсалютна з вамі згодны. Але сама энцыклапедычная навука, у добрым сэнсе кансерватыўная, не любіць рэзкіх перамен, бо энцыклапедычныя артыкулы павінны несці, калі не чыстую ісціну, то хаця б максімальна набліжацца да гэтага. І, канешне, пераломныя часы, а мы жывём менавіта ў такі перыяд, найбольш неспрыяльныя для стварэння энцыклапедый. Гэта адчуваецца вельмі востра.

Палітызаванай гісторыя была і раней. Але сёння ёсць проста палярныя думкі. Таму, мусіць, працэс і носіць даволі абвострaны характар.

Акрамя універсальнай энцыклапедыі, мы выпускаем "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі". Гэта вельмі няпростая праца. Нашы калегі з Расіі таксама выдаюць гістарычную энцыклапедыю — "Родное Отечество". Але яны пайшлі, я б сказаў, па больш лёгкаму шляху, "схітравалі": даюць падзеі ад старажытнасці і да Кастрычніцкай рэвалюцыі 17-га года. А далейшае... Калі ўсё ўляжацца, сфарміруюцца дакладныя характарыстыкі.

**Гутарыць Галіна УЛІЦЁНАК.**

**Працяг будзе.**

КОРАТКА

**ЦЭНЫ НА ЖЫЛЛЁ ПАДАЮЦЬ.** Кошт жылля на другасным рынку краіны апошнім часам пачаў зніжацца. На нядаўнім рэспубліканскім навукова-практычным семінары, прысвечаным эканоміцы нерухомасці і ацэнцы ўласнасці, было заяўлена, што за некалькі месяцаў з пачатку года ён знізіўся ў Мінску максімальна — да ўзроўню выдаткаў на будаўніцтва.

Па словах спецыялістаў беларускай асацыяцыі "Нерухомасць", у параўнанні з восенню мінулага года цэны на другасным рынку жылля ўпалі на 20—30 працэнтаў. На будучыню прагнозы не лепшыя.

**БЕЛАРУСКАЯ СТУДЭНТКА СТАЛА ПЕРАМОЖЦАЙ КОНКУРСУ МІЖНАРОДНАГА АЛІМПІЙСКАГА КАМІТЭТА.** Студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў Дар'я Мароз стала пераможцай конкурсу "Спорт і мастацтва-2000", які праводзіў Міжнародны алімпійскі камітэт. Журы на чале з прэзідэнтам МАК Хуанам Антоніо Самаранчам аддало першае месца яе карціне "Агонь Алімпа". Увогуле ў міжнародным конкурсе ўзялі ўдзел 54 краіны свету, было даслана 113 карцін і 63 скульптуры.

Акрамя Д. Мароз, адзначаны яшчэ адзін беларус. Скульптура К. Касцючэнкі заняла пятае месца ў сваёй намінацыі. Лепшыя творы ў розных намінацыях будуць выстаўлены на агляд публікі ў аўстралійскім Сіднэі, дзе ў рамках спартыўных Алімпійскіх гульняў запланавана правядзенне культурнай Алімпіяды. Пасля яны трапяць у Алімпійскі музей у Лазане (Швейцарыя), дзе месціцца штаб-кватэра МАК.

**ВЫСТАВА БРЭСЦКАГА МАСТАКА Ў ВАРШАВЕ.** У варшаўскай галерэі "Aneks" адбылася персанальная выстава брэсцкага мастака УладзіміраКівачука "Віртуальны свет прадметаў".

Арганізатарам выставы выступіла польска-беларуская гандлёва-прамысловая палата, а спонсарамі — прыватныя асобы і польскія фірмы.

**Падрыхтавала Ірына ГАЙ.**

ФЕСТЫВАЛІ



Чатыры дні тысячагадовы Віцебск прымаў удзельнікаў і гасцей фестывалю "Студэнцкая вясна-2000" з Гомеля, Мінска, Смаленска, Пскова і Віцебска. У праграме свята былі конкурсы аўтарскай песні, харэаграфіі, тэатралізаванага мастацтва і вакальных спеваў, а таксама выстава работ студэнтаў мастацкіх спецыяльнасцей "Арт-сесія-2000".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

«РОЗНЫЯ-РОЎНЫЯ»

## ПЕРАМАГЧЫ ЗАБАБОНЫ...

● **Руслан АНАНЬЕЎ.**

Беларускае маладзёжнае аб'яднанне "Розныя — Роўныя" пры падтрымцы аддзела па справах моладзі Мінгарвыканкама правяло музычны фестываль "Кожны роўны сярод розных". У ім выступілі гурты "Вертикальный взлёт", "Reflex Dlue", "Без билета", "Йо-Йо", танцавальныя рытмы дарыў дзі-джэй Vasia.

У гэты вечар "Розным — Роўным" удалося разбурыць сцяну забабонаў, якая адгарадзіла людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі ад усяго астатняга грамадства.

Сярод гасцей фестывалю было шмат інвалідаў (якое страшнае і крыўднае слова!). Яны таксама, як і ўсе прысутныя, весяліліся, танцавалі. І ніхто ні ад кога не адварочваўся, не адводзіў паспешліва свайго позірку. Усе былі роўныя. І кожны радаваўся: адны — таму што нарэшце вырваліся з тых "чатырох сцен", куды іх загнала хвароба, іншыя — бо набылі новых сяброў.

У той жа вечар "Розныя — Роўныя" святкавалі свае імяніны, таму гучалі віншаванні, былі падарункі.

Год таму некалькі маладых людзей — удзельнікаў праекта "Выйсце", які праводзіўся рэспубліканскім маладзёжным аб'яднаннем "Next Stop — New Life", сабраліся разам і вырашылі стварыць сваю арганізацыю. Аб'яднаўшыся, яны з дапамогаю дзяржаўных і бізнес-структур правялі ў Мінску музычна-экалагічны фестываль "Шкло супраць пластыка", потым — інтэграцыйны летні лагер у Віцебскай вобласці. Сацыяльна-псіхалагічныя трэнінгі, распачатыя некалькі месяцаў таму, працягваюцца і сёння. Зараз "Розныя — Роўныя" сумесна з "Нэкст Стопам" рэалізуюць два праекты — "Гіпербарэц" і "Выйсце-2". Гэта аб'ядноўвае маладых людзей з фізічнымі абмежаваннямі і здаровых.

— Галоўнае — перамагчы забабоны ва ўласным сэрцы, — гаворыць старшыня БМГА "Розныя — Роўным" Таццяна Літошык, — гэта тычыцца як інвалідаў, так і не інвалідаў — і тады мы здолеем стварыць гарманічны свет, у якім усе людзі незалежна ад іх фізічных здольнасцей адчувалі б сябе роўнымі і шчаслівымі.

ПРА СЯБРОЎ-ТАВАРЫШАЎ ДАВАЙЦЕ ЎСПАМІНАЦЬ



**Паважаная рэдакцыя! Пішa вам з Літвы ветэран Вялікай Айчыннай вайны Пётр Зайцаў. Я прымаў удзел у баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з восені 1943 па ліпень 1944 года. За вызваленне Беларусі ўзнагароджаны ордэнам Славы трэцяй ступені, а Літвы — ордэнам Чырвонай Зоркі і медалём "За адвагу".**

**Пасля заканчэння вайны да сакавіка 1950 года служыў у горадзе Вільнюсе ў той жа, 16-й Літоўскай дывізіі. Тут, у Літве, і застаўся жыць пасля дэмабілізацыі, і з 1951 года жыву ў горадзе Неменчыне Вільнюскага раёна. Да выхаду на пенсію працаваў выкладчыкам Неменчынскай сярэдняй школы.**

**Я не па чутках ведаю пра вялізны ўклад беларускага народа ў барацьбу з германскім фашызмам. Як удзельнік ліквідацыі азярышчынскай групоўкі немцаў у канцы 1943 года, а затым буйной наступальнай аперацыі "Баграціён", у чэрвені-ліпені 1944 года бачыў, якія цяжкія выпрабаванні выпалі на долю мужнага беларускага народа. Але ён не паў духам, не схіліў галаву перад ворагам, а амаль на працягу трох гадоў нямецкай акупацыі аказваў супраціўленне. У барацьбе з ворагам прымалі ўдзел і старыя, і малыя. Я бачыў гарады, што былі ператвораны фашыстамі ў руіны,**

● **Пётр ЗАЙЦАЎ.**

## БАЯВОЕ ХРЫШЧЭННЕ

У спякотны дзень 29 чэрвеня 1944 года байцы 7-й стралковай роты 167-га стралковага палка 16-й Літоўскай стралковай дывізіі сабраліся каля аднаго з бліндажоў. Да іх падышоў камандзір 7-й стралковай роты капітан Дзмітрый Тарлыкоў і паведаміў, што некаторыя часці нашай дывізіі пачалі наступленне непадалёку ад чыгуначнай станцыі Дрэтунь у вельмі неспрыяльных умовах. Там шмат непраходных балот і старанна ўмацаваных подступаў да рубяжоў праціўніка. Усе апорныя пункты ворага знаходзяцца на вышынях, з якіх зручна назіраць за мясцовасцю і весці агонь.

Неўзабаве нашу роту, як і іншыя падраздзяленні палка, падня лі па трывозе і фарсіраваным маршам перакінулі да месца, адкуль павінна было пачацца наступленне.

Па меры прасоўвання наперад усё мацней была чуваць артылерыйская кананада. Ішлі моўчкі. Кожны думаў пра бой, які павінен адбыцца.

Пакуль іншыя падраздзяленні падыходзілі да сваіх зыходных рубяжоў, камандзір нашай роты капітан Тарлыкоў сабраў усіх камандзіраў узводаў для пастаноўкі баявой задачы. Адзін за адным падыходзілі афіцэры: лейтэнант Шлякенаў — стройны, высокі, з прыгожым смуглым тварам (казах па нацыянальнасці); старшы лейтэнант Гогін — сярэдняга росту, з выразнымі шэрымі вачамі, яго сутуласць і манера трымацца выдавалі ў ім цывільнага чалавека (да вайны ён працаваў інжынерам). На гэтым невялікім савеце быў і я — камсорг роты. Савет праходзіў на ўзлессі невялічкага альшаніка, адкуль вельмі добра праглядвалася месца будучага бою. Вёскі, абазначанай на карце, ужо не існавала. На ўзлеску сіратліва стаяў адзін дом, іншыя ж былі разабраны ворагам для будоўлі бліндажоў і дзотаў.

Перад нашай ротай была пастаўлена задача заняць самую высокую агнявую кропку — дзот з дзвюма амбразурамі. Для некаторых гэтая атака была першай у жыцці, а для іншых магла стаць і апошняй.

NACHRICHTEN AUS BELARUS * NOTICIAS DE BELARUS * NOTIZIE DI BELARUS * NOUVELLES DU BELARUS



КОНКУРСЫ

# БЕЛАРУСКАЯ ФАРТЭПІЯННАЯ ШКОЛА НАБІРАЕ МОЦ

"Мінск-2000" — такую назву меў Другі міжнародны конкурс піяністаў, які прайшоў у красавіку ў Мінску. Увогуле традыцыя правядзення міжнародных піяністычных конкурсаў на Беларусі пачалася нядаўна. Першае спаборніцтва музыкантаў-выканаўцаў адбылося ў 1996 годзе і насуперак старой народнай прымаўцы пра "першы блін камяком" прайшло на высокім прафесійным і арганізацыйным узроўні. Поспех нашай фартэпіяннай школы тады быў бясспрэчны: з шасці фіналістаў трое — прадстаўнікі Беларусі. А першую прэмію атрымаў Андрэй Сікорскі, лаўрэат міжнароднага конкурсу імя Віоці (Італія), зараз саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

І вось праз чатыры гады музычны асяродак горада, нібы растрывожаны вулей, зашумеў, загудзеў. І пачаў пільна сачыць за падзеямі новага конкурсу (добра, што ўсе сродкі масавай інфармацыі імкнуліся як мага паўней асвяціць тое, што адбывалася на сцэне Белдзяржфілармоніі).

Удзельнічаць у конкурсе аргкамітэт дазволіў 91 чалавеку, аднак далёкая дарога, хваробы, іншыя абставіны перашкодзілі некаторым прыехаць у сталіцу Беларусі. Але сярод удзельнікаў мы ўбачылі маладых піяністаў з Расіі, Украіны, Арменіі, Эстоніі, Ізраіля, Тайваня, Германіі, Вялікабрытаніі... Самы старэйшы з іх — Дзмітрый Яўдзееў (яму 29 гадоў), выпускнік Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі імя Н. Рымскага-Корсакава. Самы малодшы — Аляксандр Музыкантаў (16 год) — навучэнец 10-га класа музычнага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі.

Старшынёй журы міжнароднага конкурсу піяністаў "Мінск-2000", як і на конкурсе "Мінск-96", быў народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесар Ігар Алоўнікаў. У склад журы таксама ўваходзілі вядомыя педагогі і музыканты: прафесары Валянціна Рахленка, Людміла Шаламенцава, Валерый Шацкі і Юрый Гільдзюк (Беларусь); Міхаіл Аўчыннікаў (Расія) — рэктар Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. Чайкоўскага; Валерый Казлоў (Украіна) — прафесар Нацыянальнай музычнай акадэміі Украіны імя П. Чайкоўскага; Мацей Лукашчык (Польшча) — прэзідэнт Шапэнаўскага таварыства ў горадзе Дармштаце; адказным сакратаром журы стаў настаўнік кафедры спецыяльнага фартэпіяна Беларускай акадэміі музыкі Сяргей Мікулік. Аднак найбольш знамянальнай падзеяй для беларускіх слухачоў з'явіўся прыезд Даніэля Полака (ЗША), чые карані ідуць з Пінска. Напярэдадні свайго прыезду на конкурс амерыканскі піяніст у Лос-Анджэлесе зрабіў наступную заяву для прэсы: "У Беларусі існуюць уласныя традыцыі выхавання яркіх талентаў. Я слухаў ігру некаторых маладых піяністаў, якія вучыліся ў цудоўных настаўнікаў з вашай краіны, і я сапраўды ў захапленні. У маладосці я сам выступаў тут, і вось праз столькі год з пачуццём настальгіі вяртаюся ў гэты цэнтр музыкі".

А што тычыцца конкурснай праграмы, яна была вельмі аб'ёмнай і значна ўскладнёнай у параўнанні з папярэднім конкурсам. Так, у трэцім туры ўдзельнікі выконвалі два канцэрты для фартэпіяна з аркестрам: абавязкова канцэрт Моцарта з камерным аркестрам і яшчэ адзін па выбару ў суправаджэнні сімфанічнага аркестра. Абавязковым быў і твор беларускіх кампазітараў: Ю. Блінова, Г. Картокінай і А. Літвіноўскага, а ў другім туры твор кампазітара другой паловы XX стагоддзя краіны-ўдзельніцы.

Уражаннем ад мінскага конкурсу з намі падзяліўся Мацей Лукашчык, сам яскравы выканаўца, інтэрпрэтатар твораў Ф. Шапэна: "З задавальненнем паслухаў маладых, таленавітых выканаўцаў найвышэйшага ўзроўню, якія змаглі дайсці да фіналу. Калі параўноўваць мінскі конкурс з іншымі, дзе мне даводзілася прысутнічаць, трэба адзначыць яго надзвычайную складанасць: сапраўды, цяжка ў хуткім тэмпе пераходзіць з тура ў тур, трымаць у памяці вялізную праграму.

Асабліва цікава было пачуць у розных інтэрпрэтацыях творы Шапэна, бо музыка гэтага кампазітара ставіць перад выканаўцам няпростыя задачы. Яго сачыненні вельмі падабаюцца піяністам, але да Шапэна, чыя музыка — вялікая таямніца, трэба дарасці. Не буду казаць, што польскія піяністы выконваюць Шапэна лепш за прадстаўнікоў іншых піяністычных школ, але яны маюць магчымасць сутыкнення з вытокамі, на якіх вырасла ўся творчасць кампазітара: ім добра знаёмы наваколлі Варшавы, Жэлязова Воля, дзе нарадзіўся Шапэн, але галоўнае, яны ведаюць польскую народную музыку, танцы — мазуркі, паланезы. Так, часта паланезы выконваюцца ў больш хуткім тэмпе, чым трэба, што не адпавядае характару танца-шэсця — hodzonego.

На мой погляд, выдатны піяніст павінен валодаць не толькі віртуознай тэхнікай. Індывідуальнасць і якасць гуку — свайго кшталту візітныя карткі выканаўцы. Піяністу трэба імкнуцца да вакальнасці гуказдабыцця, набліжацца да голасу спевака..."

Вынікі конкурсу спраўдзілі чаканні беларускіх аматараў фартэпіяннага выканальніцкага мастацтва: І месца атрымаў наш суайчыннік Аляксандр Музыкантаў (клас З. Качарскай); ІІ месца — І. Салдаценка (Украіна), ІІІ месца — З. Амбарцумян (Расія).

Перамога на конкурсе сведчыць: беларуская фартэпіянная школа набірае моц і важкасць у сучасным выканальніцтве, што пацвярджаюць іншыя перамогі нашых піяністаў, напрыклад, А. Паначэўнага ў ЗША, А. Пятрова ў Італіі, С. С. Смірнова ў Японіі, І. Сяргея ў Польшчы, К. Красніцкага ў Югаславіі, С. Я. Смірнова ў Расіі, Р. Крымера ў Францыі...

**Наталля ГАНУЛ.**

ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БелТА.**

Прайшло не болей трох тыдняў пасля чарнобыльскай аварыі, як у вёску Насовічы Добрушскага раёна прыбылі першыя перасяленцы. З таго часу на ўскрайку вёскі пабудаваны цэлы пасёлак, дзе знайшлі другую малую радзіму больш за 500 чалавек з пацярпелых раёнаў. За 14 гадоў многія ажаніліся, сталі не проста аднавяскоўцамі, але і сваякамі, і таму паняцце "перасяленец" зараз тут мае вельмі ўмоўнае значэнне. Па чарнобыльскай праграме ў вёсцы пабудавана школа-сад, дзе ў цудоўным памяшканні размясціліся групы малышоў дзіцячага сада і класы малодшых школьнікаў, уключаючы чацвёрты, групы падоўжанага дня. У дзіцячым садзе-школе адначасова праходзяць навучанне 150 сельскіх дзяцей.

НА ЗДЫМКУ: гэтыя дзеці з сямей перасяленцаў нарадзіліся і выраслі ўжо тут, у Насовічах, пасля чарнобыльскай аварыі.

ЗДАРЭННІ

## ЗАГАДКАВЫЯ «ХОНДЫ»

Шэсць аўтамабіляў "Хонда" 1999 года выпуску агульным коштам больш за 93 тысячы долараў ЗША без нумарных знакаў і адпаведных дакументаў выявілі супрацоўнікі Дзяржаўнага камітэта фінансавых расследаванняў (ДКФР) на аўтастаянцы ДЮСШ № 2 горада Гомеля. Як высветлілася, да нас яны трапілі з Чэхіі дзякуючы адной маскоўскай фірме, а пакупнікамі з'яўляюцца шэсць жыхароў Гомеля. Аднак у далейшым аказалася, што гамяльчане самі "Хонды" не куплялі, а толькі за невялікую плату прадаставілі свае пашпарты для афармлення аўтамабіляў. Як паведамілі ў аргінспектарскім упраўленні ДКФР, рашэннем суда Цэнтральнага раёна Гомеля ўсе машыны канфіскаваны ў даход дзяржавы.

**бачыў спаленыя альбо ператвораныя імі ў непрыступныя абаронныя рубяжы вёскі, якія нам даводзілася браць штурмам...**

**Гадоў дзесяць таму назад у мяне брала інтэрв'ю журналістка "Комсомольской правды" Г. Галавіна, якая пісала пра слаўную дачку літоўскага народа Данутэ Станелене — адну з чатырох жанчын, узнагароджаных ордэнам Славы ўсіх трох ступеней. Мы ваявалі разам з ёю. Я расказваў журналістцы, як ваявала мужная кулямётчыца. На развітанне журналістка параіла запісаць свае салдацкія ўспаміны пра вайну. Я доўга адмаўляўся, лічыў, што для гэтага трэба мець нейкі літаратурны талент. Але яна настойвала: "Гэта справа салдацкага сумлення. Успаміны салдата... для гісторыі, для нашчадкаў".**

**І я пачаў пісаць. Працаваў доўга, пісаў пра тое, што сам бачыў, перажыў, пра сваіх таварышаў, якія загінулі ў баях у час вызвалення Беларусі, Літвы, Латвіі, пра паўсядзённы салдацкі побыт. Але настаў такі час, калі, напрыклад, у Літве, дзе я жыву, матэрыялы пра вайну нікому не патрэбны. Дасылаю вам урывак з маёй кнігі з надзеяй: можа хто-небудзь прачытае і дасць параду, што мне рабіць з маімі ўспамінамі. У іх няма ніводнага выдуманага факта, прозвішча — усё сапраўднае.**

Сталыя воіны трымаліся спакойна. Думалася, ці то яны так добра ўмеюць валодаць сабой і ў самых цяжкіх абставінах, ці на самай справе яны ўжо нічога не баяліся. Кулямётчыца Данутэ Станелене са сваім памочнікам, даволі сталым салдатам, ураджэнцам клайпедскага краю — Магуцісам, таксама не выказвалі хвалявання. Гэтай адважнай жанчыне ўжо не раз даводзілася і атакаваць, і адбіваць атакі фашыстаў, пра што сведчылі і дзве баявыя ўзнагароды: ордэн Славы трэцяй ступені і медаль "За адвагу". Нам было з каго браць прыклад...

У гэты час цяжка было зразумець, адкуль вёўся агонь, бо, здавалася, усё злілося ў адзінае працяглае, аглушальнае выццё. Дзевятая рота, што знаходзілася справа ад нас, ужо ішла на штурм лініі абароны праціўніка. Неўзабаве лейтэнант Шлякенаў узмахам рукі падаў знак сваім байцам: пара выступаць. Мы ланцугом накіраваліся за камандзірам. Данутэ разам з Магуцісам цягнулі свой цяжкі "Максім". У гэты момант вораг увесь агонь накіраваў на правы фланг. Я паспеў заўважыць, што нашы байцы з дзевятай роты то тут, то там пачалі падаць. Мной пачаў авалодваць страх: я ведаў, што ў дзевятай роце многа маладых байцоў, з якімі я вучыўся ў палкавой школе. На шляху нашага ўзвода стральбы не было. Крайні дзот варожай абароны, да якога мы ішлі, маўчаў. Што там нас чакае? Цішыня — тактычная хітрасць: хочуць нас падпусціць бліжэй і адкрыць кінжальны агонь, ці ўсю сваю ўвагу яны накіравалі на іншыя нашы два ўзводы, а нас не заўважаюць?

Ад невыноснай спякоты пот каціўся па твары градам, губы перасохлі, горла душылі спазмы. Ногі гразлі ў балотнай жыжы. У скронях стукала так, што ўжо не заўважаў ні грукату пушак, ні разрываў снарадаў. Прайшлі хмызняк — і стала відаць, што мы апярэдзілі іншыя два ўзводы і дзевятую роту, якая наступала справа ад нас.

Цяпер ужо было добра бачна, як наш камандзір роты ў поўны рост ішоў з ланцугом байцоў. А Данутэ Станелене, выбраўшы зручную пазіцыю, кулямётным агнём падтрымлівала наступаючых.

Балота канчалася. Да агнявых кропак праціўніка заставалася каля сотні метраў, але цёмныя квадраты амбразур маўчалі. Усе ўжо моцна стаміліся. Сэрца грукала так, што, здаецца, выскачыць з грудзей. Да цвёрдай зямлі заставалася некалькі дзесяткаў крокаў, як раптам з крайняй амбразуры дзота застрачыў кулямёт. Відаць, фашыст позна прыкмеціў нас, бо яго першая кулямётная чарга прашыла кулямі балота крокаў за дваццаць перад нашым ланцугом. Мы адразу зразумелі: стральба па нас вядзецца разрыўнымі кулямі, яны паднімалі густыя фантаны вадкай гразі. Хутчэй бы вырвацца з гэтага праклятага балота! Але ногі, як спутаныя, гразлі ў дрыгве. А фашысты ўзмацнілі агонь па нашаму леваму флангу, відаць, хацелі першым вывесці са строя афіцэра, лейтэнанта Шлякенава, які ішоў наперадзе. Да вызначанага рубяжа заставаліся лічаныя метры, калі гітлераўцы змаглі ўзяць на прыцэл нашу групу. Я пачуў ззаду страшэнны крык салдата Аверына, цяжка параненага ў ногі. А праз імгненне без адзінага гуку зваліўся лейтэнант Шлякенаў.

Падступалі злыя слёзы. Толькі б дабрацца да гэтай праклятай агнявой кропкі, якая сеяла смерць у радах маіх таварышаў, і ўвесь кулямётны дыск выпусціць па фашысцкіх гадах! Але ногі не слухаліся. А як не хацелася быць прабітым фашысцкай куляй і ўпасці ў гэта смуроднае балота!

Выкарыстаўшы імгненне, пакуль замаўчаў варожы кулямёт, я і яшчэ некалькі байцоў з узвода лейтэнанта Шлякенава, без каманды, зрабіўшы бросок, апынуліся справа ад крайняй амбразуры дзота. Тут я ўбачыў лейтэнанта Ахотнікава, які ляжаў у неглыбокай баразне. Я залёг за некалькі крокаў ад яго. Справа ад нас байцы дзевятай роты кароткімі перабежкамі набліжаліся да рубяжоў праціўніка. Яшчэ яны не паспелі параўняцца з нашай ротай, як без каманды камандзіра роты баец першага ўзвода, які знаходзіўся злева ад нас з Ахотнікавым, імгненна падняўся ў поўны рост і з воклічам: "За Радзіму! Уперад!", страляючы на хаду з ручнога кулямёта, кінуўся ўперад. У гэты ж момант з нямецкіх акопаў у яго паляцелі некалькі ручных гранат, якія, на вялікае шчасце, яму не пашкодзілі.

Лейтэнант Ахотнікаў хутка падняўся і пабег да лініі абароны немцаў, я — за ім. Адначасова адарваліся ад зямлі ўсе байцы і камандзіры і з крыкамі "Ура!" кінуліся ў атаку. Страляючы на хаду і кідаючы гранаты, уварваліся ў акопы і бліндажы праціўніка. Завязаўся бой. Многія з варожых салдат не вытрымалі такога націску і кінуліся наўцёкі. З'явіліся першыя палонныя. Але фашысты працягвалі адстрэльвацца.

І тут здарыўся выпадак, калі кароткае імгненне выратавала маё жыццё. Я ўпершыню твар да твару сустрэўся з гітлераўцам. З крайняга бліндажа выбег той самы кулямётчык, які вёў агонь па нашай групе і забіў лейтэнанта Шлякенава. Спрабуючы страляць на хаду, ён пабег услед за сваімі. Я націснуў на спускавы курок аўтамата, але выстрал не раздаўся. Заклініла патрон. Пакуль я даставаў патрон, гітлеравец павярнуўся назад і накіраваў на мяне свой кулямёт. У мяне мурашкі прайшлі па целу. "Вось і ўсё, — думаю. — Няўжо канец?!" Але адбылося нечаканае: ён націснуў на спуск, затвор бразнуў, а выстрала таксама не адбылося. Хвіліны вырашалі зыход нашай дуэлі: я — яго, ці ён — мяне. І мой аўтамат усё ж выручыў мяне ад немінучай гібелі...

У гэты час вышыні дасягнулі ўжо многія нашы байцы. Яны вялі агонь па фашыстах. Баявая задача была выканана: вышыня ўзята. Камандзір загадаў заняць абарону. З наступленнем цемнаты стральба на нашым участку закончылася. Але мы пільна сачылі за лесам, дзе схаваліся фашысты. Было зразумела: праціўнік не прымірыцца з нечаканай стратай гэтай вельмі важнай у стратэгічных адносінах вышыні і паспрабуе яе вярнуць, чаго б гэта яму ні каштавала.

На наступны дзень фашысты пачалі контратаку вышыні, каб адбіць яе ў нас. Увесь дзень, 30 чэрвеня, яны дзевяць разоў пераходзілі ў контратаку, але беспаспяхова. Мы мужна трымалі абарону.

Наперадзе нас чакалі баі за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На нашым участку яны завяршыліся 12 ліпеня 1944 года.

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

## ПОЛЬШЧА

Дарагая рэдакцыя, дзякуй за газету "Голас Радзімы". У маёй працы яна аказвае вялікую дапамогу.

Вашу газету чытаю студэнтам, яны перакладаюць на польскую і рускую мовы. Абмяркоўваем многія артыкулы. У апошні час студэнтаў зацікавілі беларускія стравы, рэцэпты якіх друкуеце. Прыгатавалі "Бліны з бульбы" і справілі "банкет" на занятках.

Сумую па родных мясцінах. У апошні час удалося паслухаць выступленне А. Камоцкага, акрамя таго, я атрымала плёнку з яго запісамі псалмоў і зборнік вершаў на беларускай мове.

Сваякі і знаёмыя даслалі мне зборнікі вершаў Д. Бічэль, А. Бакача, А. Кудласевіча. Некаторыя вершы студэнты вучаць на памяць, напрыклад, "Не з табою" В. Пятроўскага, "Тата" Г. Мяцеліцы, "Я сею жыта" К. Цвіркі. Сучасныя беларускія паэты закранаюць агульначалавечыя праблемы: філасофіі, рэлігіі, кахання, сэнсу жыцця.

Збіраемся перакласці некаторыя вершы беларускіх паэтаў для публікацыі ў польскіх часопісах.

У мяне ёсць даўнейшыя выданні па біялогіі. Я магла б даслаць таму, каго гэта цікавіць.

Можа ў вас або ў некага знойдзецца тэкст, напісаны лацінкаю? Хацелася б пазнаёміць студэнтаў з гэтай формай беларускага пісьма. Дарэчы, пацінкаю пісаў Ф. Багушэвіч, мой зямляк.

Дапамагае мне ў працы са студэнтамі, якія вывучаюць беларускую мову, і консульства Рэспублікі Беларусь.

Жадаю плённай працы.

З павагаю
**Леакадзія СУХВАЛА.**
Гданьск.

## УКРАІНА

Дарагія супрацоўнікі рэдакцыі! Дзякуй за газету "Голас Радзімы", якую пачаў атрымліваць. А гэта нумары 13, 14, 15. Можа вы не паверыце, але я яе чытаю "ад вокладкі да вокладкі". Газета мне падабаецца, і афармленне яе добрае ( шапка асаблівая). Усе тры нумары змястоўныя і патрэбныя. Па адным экземпляру падшываю, а два аддаю землякам. З атрыманых газет даведаўся, што "Голасу Радзімы" ужо 45 стукнула. Запомніў артыкул Алены Кобец пра Грэцыю, фотаздымкі Яўгена Казюлі і нават "Бульбачку" маленькай беларускі з Латвіі. Разумна зрабілі, што змясцілі "Крыжаслоў" з перакладаннем на беларускую мову — добры спойнік для дзяцей і дарослых. І "Дзіцячая чытанка" ў № 13 — сапраўдная "хатняя" школа. Дзякуй Святлане Карпучок.

Спадабалася інтэрв'ю журналісткі Лавініі Арэшка з генеральным дырэктарам праграм Беларускага тэлебачання Аляксандрам Дамарацкім. Цікавая гісторыя назвы Мінска, якую расказала Нэлі Прывалава. Даведаліся з газеты і пра праблемы наркаманаў у Салігорску з артыкула Златы Гурыновіч — нам вельмі шкада гэтых маладых людзей, перажываем за такіх, як яны. А вось пра сельскую гаспадарку пішаце мала, трэба пра вёску больш пісаць. Там працуюць многія нашы сваякі.

Добра, што змясцілі фота "Міс-Брэст" Алы Кеба. Мы тут з радасцю і гордасцю ўспрымаем рашэнне гэтай прыгожай і годнай беларускі адмовіцца ад ролі супер-мадэлі і аддаць перавагу сямейнаму жыццю. Калі магчыма, то перадайце ёй ад Львоўскай беларускай суполкі нашу радасць, нашу гордасць за дарагую зямлячку і за тое, што яна не пакінула родны Брэст. Хай будзе шчаслівая яе сям'я — муж і дачушка Хрысціна, яе бацькі.

Грунтоўным падаўся артыкул з рубрыкай "Беларусь — Расія" Юрася Ляшкевіча. Калі такія артыкулы будуць у кожным нумары, то гэта вельмі правільна.

Нам амаль нічога невядома пра "ЗБС "Бацькаўшчына". Калі магчыма, то напішыце пра "Бацькаўшчыну" і ўдакладніце: хто з'яўляецца яе заснавальнікам, калі і дзе заснавана, хто зараз яе ўзначальвае і якая яе роля ў грамадска-палітычным жыцці Беларусі.

А вось яшчэ прапановы газеце. Просьба публікаваць матэрыялы пра рэгіёны Беларусі: тэрыторыі, насельніцтва, прыродныя ўмовы, ролю вобласці ў эканоміцы рэспублікі, пра культурнае і духоўнае жыццё, каардынаты абласнога кіраўніцтва і гэтак далей. Пра Беларусь мы мала ведаем, а такія даныя нам вельмі патрэбныя. Цікава чытаць пра нашых землякоў у краінах СНД. Добра было б ведаць іх каардынаты, каб пры неабходнасці наладзіць з імі сувязь. На гэтым спыняюся, таму што прапаную ўсіх шмат, а магчымасці газеты абмежаваныя.

Новы 2000 год адзначалі разам з грэчаскай суполкаю (іх 18 чалавек). Было весела: добрае застолле, музыка і танцы, гучалі беларускія песні і абавязкова песня на словы Н. Гілевіча і музыку Э. Ханка "Вы шуміце, бярозы".

Пакуль у нашай беларускай нацыянальнай суполкі няма пакоя (офіса), але адчаю нясць. Затое ў нас ужо ёсць банкаўскі рахунак, пячатка. Спадзяёмся на спонсараў, і мне гэтым давводзіцца займацца па логіцы — "хто шукае, той знойдзе". З іншымі суполкамі беларусаў Украіны сувязі пакуль што не падтрымліваем, але мяркуем гэтым заняцца.

Цяпер нашу Беларускую нацыянальную суполку ў горадзе Львове ўзначальвае Сяргей Кулікоў, ён з Магілёўшчыны.

Вось пакуль і ўсё. Яшчэ раз дзякуй за газеты.

З павагаю
**Валянцін СТРЫБУК,**
**ураджэнец г. Брагіна.**
Львоў.

**ВЫСТАВЫ**




## НОВАЯ ЭКСПАЗІЦЫЯ ІРЫНЫ МАГУЧАЙ

З творчасцю віцебскай мастачкі, члена Саюза мастакоў Беларусі Ірыны Магучай знаёмыя паклоннікі жывапісу і графікі замежжа. Многія яе работы знаходзяцца сёння ў калекцыянераў ЗША, Германіі, Польшчы, Галандыі, Ізраіля.

НА ЗДЫМКУ: у гэтыя дні Ірына МАГУЧАЯ знаёміць віцьблян з новай экспазіцыяй сваіх работ.

**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

# «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

● **Леанід ЛЫЧ**, *доктар гістарычных навук.*

Як і планавалася, Першы сход беларусаў блізкага замежжа адбыўся ў снежні 1992 года ў Мінску. Гэтае мерапрыемства з поўнай падставай можна назваць сапраўднай акцыяй агульнанацыянальнага маштабу. То быў час, калі ў нашага народа з'явілася рэальная магчымасць у адпаведнасці з прынятай 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР выйсці на шырокі прасцяг незалежнага палітычнага развіцця як найважнейшай перадумовы выхаду з зацяжнога крызісу рускай культурна-моўнай асіміляцыі. Беларусы, незалежна ад месца пражывання, выдатна разумелі, што пераход ад юрыдычнага абвяшчэння да практычнага здзяйснення гістарычных ідэй Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце краіны можна здзейсніць толькі аб'яднанымі намаганнямі ўсіх яе нацыянальных патрыётаў.

Канферэнц-зала мінскага Дома літаратара, дзе праходзіў Першы сход беларусаў блізкага замежжа, была перапоўнена. У ёй разам з дзяржаўнымі асобамі самых высокіх рангаў прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх грамадскіх нацыянальна-адраджэнскіх і культурных рухаў.

Гэта было, бадай, першае ў гісторыі Беларусі XX стагоддзя агульнанацыянальнае мерапрыемства, дзе пад незалежніцкім сцягам аб'ядналіся ўсе, для каго яе глыбінныя, карэнныя інтарэсы былі даражэйшыя за групавыя, асабістыя.

Гэтак мне, непасрэднаму ўдзельніку мерапрыемства, давялося выступаць з асноўным дакладам.

Высокі ўзровень падрыхтоўкі і правядзення Першага сходу беларусаў блізкага замежжа з усёй відавочнасцю паказаў, што ў кіраўніцтва "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" досыць сілы і здольнасцей для арганізацыі мерапрыемства яшчэ больш высокага рангу — з'езда беларусаў свету. Было прынята проста рызыкоўнае рашэнне: правесці яго ўжо ўлетку 1993 года, гэта значыць праз паўгода пасля Першага сходу беларусаў блізкага замежжа.

Але было б памылкова сцвярджаць, што станаўленне "ЗБС "Бацькаўшчына" ішло ўвесь час трыумфальна і эйфарычна. Якраз пасля Першага сходу беларусаў блізкага замежжа абазначыліся драматычныя моманты ў развіцці гэтай грамадскай арганізацыі. Асабліва яны абвастрыліся ў сувязі з альтэрнатывай: праводзіць у бліжэйшым часе З'езд беларусаў свету ці, на чым асабліва настойваў лідэр Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк, папулярнасць якога ў той час была вельмі вялікай, дачакацца таго моманту, калі Беларусь, як ён лічыў, стане ў поўным сэнсе гэтага слова незваротна дэмакратычнай, нацыянальна зарыентаванай незалежнай дзяржавай. У гэтым лідэра БНФ падтрымаў і прэзідэнт "Бацькаўшчыны" Васіль Быкаў. Такім чынам, маладая грамадская арганізацыя апынулася на мяжы магчымага раскола. Ды пра ўсе нюансы, напэўна, лепш за ўсё пачуць з першых вуснаў, ад самога Яўгена Лецкі. Ведаю толькі, што раптоўна і для многіх нечакана ў гэты час надзвычайную актыўнасць пачала праяўляць дасюль ціхая і як асоба мала выяўленая Ганна Сурмач. Менавіта яна, як вынік дасягнутага кампрамісу з БНФ, і ўзначаліла Аргкамітэт па правядзенню з'езда. Намаганні Лецкі былі найперш скіраваны на тое, каб сюды, на Бацькаўшчыну, у гэты вызначальны для яе момант з усіх канцоў свету сабраліся яе годныя сыны і дочкі, каб гэта быў сапраўды ўсенародны беларускі форум. Карацей — вызначаў і забяспечваў стратэгію з'езда.

Вызначаны сціслы тэрмін склікання Першага з'езда беларусаў свету запатрабаваў ад яго арганізатараў надзвычайных вялікіх намаганняў. Задзейнічаныя на грамадскіх пачатках у Аргкамітэт з'езда людзі працавалі, як на сваёй асноўнай службе. Згуртаванасць былі ўпэўнены, што з'езд адбудзецца і пройдзе на належным узроўні. Паверыць у такое дапамагала і ўвага пэўных дзяржаўных структур да падрыхтоўкі гэтага невядомага для гісторыі нашай краіны мерапрыемства. Шырокае асвятленне знайшла гэта падзея і ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі.

Дзякуючы ім, пра маючы адбыцца ў Мінску з'езд беларусаў свету ведала практычна ўсё дарослае насельніцтва нашай краіны. І вестк пра гэтую неардынарную падзею ўспрымаліся большасцю з вялікай цікавасцю.

Сваю гістарычнай важнасці працу Першы з'езд беларусаў пачаў у вызначаны тэрмін — 8 ліпеня 1993 года. Партэр, бельэтаж і балконы Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, дзе сабраліся ўдзельнікі з'езда, былі цалкам запоўнены. Кожнае выступленне давала столькі матэрыялу для роздуму, што нават у час перапынку твары многіх вызначаліся асаблівай засяроджанасцю і ўдумлівасцю. Хапала і вясёлых усмешак, ажыўленых размоў нават і ў асяроддзі незнаёмых адзін аднаму беларусаў-аднадумцаў.

Але кідалася ў вочы, што ў прэзідыуме рэй вёў не галоўны арганізатар данай падзеі Яўген Лецка, а Ганна Сурмач. Для многіх было проста дзіўным і нечаканым, што падчас выбараў старшыні Рады новы прэзідэнт "ЗБС "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі на пасаду, якая вызначае ўсю практычную дзейнасць згуртавання, прапанаваў не Яўгена Лецку, а Ганну Сурмач. Не менш дзіўным было і тое, што сам Лецка, калі ўсё ж гэтае пытанне было ўзнята, адмовіўся ад старшынёўства, заявіўшы, што хоча ў рамках "ЗБС "Бацькаўшчына" заняцца толькі культурна-асветнай, а найперш выдавецкай справай. У выніку Ганна Сурмач стала старшынёй Рады ЗБС, а Яўген Лецка — дырэктарам выдавецтва "Бацькаўшчына" і радавым супольнікам Рады і Управы "ЗБС "Бацькаўшчына". Па справядлівасці ж той велізарны ўклад, які ён унёс у нараджэнне гэтага добраахвотнага аб'яднання беларусаў, даваў яму маральнае і юрыдыч-

**Заканчэнне. Пачатак у № 20.**



# НАПЯРЭДАДНІ 10-годдзя

нае права бязззменна займаць пасады старшыні Рады і Управы як мінімум на працягу двух-трох тэрмінаў запар. Такога права яго можна было пазбавіць толькі па дзвюх прычынах: прафесійнай непрыдатнасці ці выкарыстання фінансавых сродкаў "ЗБС "Бацькаўшчына" ў асабістых мэтах. Такіх адмоўных з'яў у дзеяннях і паводзінах Я. Лецкі не заўважалася. Чалавек № 1 у заснаванні "Бацькаўшчыны" застаўся на другараднай ролі ў яе дзейнасці, што не паддаецца апраўданню ні з якога боку.

Што ж выйграла аб'яднанне ад змены кіраўніцтва? Што адмыслова зроблена ім пасля Першага з'езда беларусаў свету? Асабіста я не бачу (магчыма і памыляюся) адметнага поспеху ў яго дзейнасці за гэты перыяд, хаця стартавыя магчымасці яно, не баюся перабольшвання, мела проста выдатныя. Жаданне працаваць у імя найцяснейшага згуртавання беларусаў метраполіі і замежжа, як самага дзейснага сродку нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, было велізарнае. Меліся для гэтага і неабходныя матэрыяльна-фінансавыя перадумовы, кадравы патэнцыял.

Магчыма, у мяне адсутнічаюць поўныя звесткі, але часцей запамінальнага ў працы "ЗБС "Бацькаўшчына" паміж яе першым і другім з'ездамі (ліпень 1993 — ліпень 1997) я не магу прыгадаць. Нельга ж усё зводзіць толькі да арганізацыі з'ездаў. Трэба, каб і ў перыяд паміж імі ладзіліся ў чымсьці адметныя акцыі, бо жыццё не стаіць на месцы і на самыя важныя падзеі не можа не рэагаваць такое аўтарытэтнае і прадстаўнічае аб'яднанне, як "ЗБС "Бацькаўшчына". Прычым, менш за ўсё рознага роду зваротамі да народа ў малатыражных газетах. Асабліва выразна выявілася няздольнасць новага кіраўніцтва Рады і Управы вырашаць маштабныя задачы ў час падрыхтоўкі Другога з'езда беларусаў свету. За колькі месяцаў да яго правядзення Ганна Сурмач наведала многія беларускія асяродкі ў краінах далёкага замежжа. Успрымаецца як парадокс тое, што менавіта ад іх на з'езд з'явілася мізэрная колькасць дэлегатаў. Паводле тэрытарыяльнай прыналежнасці яго ўдзельнікаў гэты форум больш справядліва называць Другім з'ездам беларусаў былых саюзных рэспублік СССР.

Да гэтай няўдачы дадалася і другая, прычым больш сур'ёзная: адбыўся ідэйны раскол удзельнікаў Другога з'езда практычна па ўсіх найбольш важных, прынцыповых пытаннях, не выключаючы і дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, захавання толькі за беларускай мовай статуса адзінай дзяржаўнай у краіне, стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі, усталявання ў дзяржаўным, грамадскім сектары аптымальных суадносін паміж беларускай і рускай культурамі, каб не адбывалася выцясненне першай з яе гістарычнай тэрыторыі. Канфлікт набыў такія маштабы, што не знайшлі іншага сродку, як звярнуцца па дапамогу да дзяржавы (?), замест таго каб пастарацца самім шляхам навуковай дыскусіі разабрацца з ім. Афіцыйныя ідэалагічныя службы, пазіцыя якіх вядомая, ахвотна выступілі ў ролі арбітра і, зразумела, сталі на бок тых, хто займаў пасіўную пазіцыю ў беларускім Адраджэнні. Удзельнікі Другога з'езда раз'ехаліся з дыяметральна процілеглымі поглядамі. "Бацькаўшчына" ж па сённяшні дзень не змагла як след адрэагаваць на гэтую адмоўную з'яву. Беларусы ў сябе дома і за мяжой працягваюць заставацца раз'яднанымі ў сваім стаўленні да сутнасці нацыянальнай ідэі.

Зразумела, у самога "ЗБС "Бацькаўшчына" няма дастаткова ні сіл, ні сродкаў ліквідаваць канфлікт беларусаў, падрыхтаваны за многія гады адпаведнай дзяржаўнай палітыкай. Але даць яму аб'ектыўную ацэнку, адшукаць шляхі яго пераадолення не дэкларатыўна, а ў штодзённай практычнай (рэальнай) дзейнасці аб'яднанне "Бацькаўшчына" абавязана было зрабіць ужо даўно. Не сумняваюся, што асноўная функцыя кіраўніка яго Рады і Управы не ў перыядычных і частых наведваннях беларускіх асяродкаў краін далёкага замежжа (заданні па такіх паездках штогод пераважна выконваюцца), а ў правядзенні ў сябе дома рознага роду як буйнамаштабных, так і сярэдніх па значнасці мерапрыемстваў з прадстаўнікамі беларускай дыяспары. Апошняя замежная камандзіроўка Ганны Сурмач так зацягнулася, што складваецца ўражанне, нібыта яна зусім не збіраецца вяртацца на Радзіму. І гэта ў час, калі "Бацькаўшчына" ў такім зацяжным крызісе!

Адсутнасць сістэматычнай і мэтанакіраванай, эфектыўнай працы ЗБС у самой метраполіі з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ніяк нельга апраўдаць недахопам патрэбных для гэтага фінансавых сродкаў. Ёсць мерапрыемствы, пры правядзенні якіх можна ўкласціся ў самыя мізэрныя выдаткі, асабліва калі да працы падключыць і дзяржаўныя ўстановы. Да прыкладу, сустрэча настаўнікаў агульнаадукацыйных школ Беларусі з калегамі, якія ў іншанацыянальных асяродках вядуць навучанне беларускіх дзетак на іх роднай мове.

Менавіта ад "ЗБС "Бацькаўшчына" чакаецца ініцыятыва ў правядзенні з іншымі грамадскімі арганізацыямі ў сябе на метраполіі юбілеяў выбітных землякоў, якія нават і на чужыне не выракліся беларускай нацыянальнай ідэі, жылі ці працягваюць жыць інтарэсамі роднага ім краю.

Апошнім часам на ўзровень агульнанацыянальнай праблемы выйшаў даволі масавы выезд беларусаў на сталае жыццё ў іншыя краіны. Гэта павінна хваляваць не толькі дзяржаўныя ўлады, але і "ЗБС "Бацькаўшчына", усё наша грамадства. Ад дабра людзі не кідаюць свой родны кут.

У гэтых умовах вельмі важна, каб людзі, што пакідаюць радзіму, не адцураліся ад сваёй беларускасці і не ператвараліся на чужыне ў бліскароднасных ім рускім, украінскім ці польскім асяродзях. А такая пагроза цалкам рэальная, бо мы ў сябе дома жывем адгароджанымі ад уласных нацыянальна-культурных традыцый і роднай мовы, таму няма аніякай гарантыі, што беларусы, апынуўшыся ў чужых краях, будуць з належнай пашанай ставіцца да гэтых духоўных каштоўнасцей. Хаця зусім выключаць настальгію па сваёй нацыянальнай культуры і мове ў выхаваных на такіх рускіх адраджэнцах беларусаў, што пакідаюць Айчыну, не варта. Стаўленне чалавека да сваіх нацыянальных каштоўнасцей непрадказальнае, знаходзіцца ў вялікай залежнасці ад часу і абставін.

Наколькі мне вядома, беларускіх эмігрантаў цяперашняй хвалі вельмі актыўна прываблівацюь да сябе прыходы Рускай замежнай праваслаўнай царквы ці польскіх касцёлаў, якія лепяць з іх адпаведна "рускіх" ці "палякаў". Каб ухіліцца ад такой этнічнай метамарфозы, трэба раіць тым, хто збіраецца ў эміграцыю, шукаць там прыходы Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, выкінуўшы з галавы ўсю хлусліваю інфармацыю, што ўдалося пачуць пра гэтую царкоўную арганізацыю ў сябе дома ад праваслаўных святароў прамаскоўскай арыентацыі.

Наспеў час правесці ў метраполіі сустрэчу з эмігрантамі, якія пакінулі радзіму за апошняе дзесяцігоддзе, каб даведацца пра іх праблемы, супольна адшукаць шляхі іх вырашэння на шчыльна прыблі-жанай да беларускай ідэі аснове. Не сакрэт, што апошнімі гадамі з Беларусі падалося за мяжу даволі шмат здольных у тым ці іншым абсягах культуры і мастацтва людзей, таму сустрэча з імі магла б насіць не толькі пэўны дзелавы характар, але і выліцца ў цікавую культурную акцыю.

Як сумленны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, не магу спакойна ставіцца да ігнаравання дзяржаўнымі органамі дзейнасці такіх добраахвотных аб'яднанняў нацыянальна-адраджэнскай накіраванасці, як "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы.

Сучасны стан нашага нацыянальнага жыцця такі трывожны і трагічны, што патрабуе ад нас актывізацыі і напружання ўсіх сіл. Усялякая, з першага погляду, нязначная ініцыятыва той ці іншай грамадскай арганізацыі па абароне нацыянальнага суверэнітэту і выратаванні беларускага народа ад культурна-моўнай асіміляцыі, павінна быць падтрымана дзяржавай.

Такія зусім не радасныя, не юбілейныя характару разважанні аўтара даных радкоў адносна дзесятай гадавіны "ЗБС "Бацькаўшчына". Яны выкліканы шчырым жаданнем разабрацца ў тым, што перашкаджае нармальнай дзейнасці ЗБС, і адшукаць шляхі павышэння яе эфектыўнасці. Думаю, была б вялікая карысць яшчэ да таго, як мы збяромся 10 верасня, урачыста адзначыць дзесяцігоддзе заснавання "ЗБС "Бацькаўшчына", грунтоўна і дэталёва абмеркаваць яго набыткі і недапрацоўкі, вызначыць напрамкі актывізацыі беларуская нацыянальнага жыцця ў сябе дома, у блізкім і далёкім замежжы.

**«ФЕЕРВЕРК ГРАЦЫЙ»**




VII Міжнародны фестываль танца "Феерверк грацый 2000" прайшоў у Віцебску. Звыш сотні танцораў змагаліся за перамогу на гэтым прэстыжным фестывалі, які сабраў майстроў танца з Расіі, краін Балтыі і Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: фрагмент фестывалю "Феерверк грацый".

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

**СУПРАЦОЎНІЦТВА**

# НАШ ПРАФЕСАР У САРБОНЕ

Шосты год доўжыцца ўзаемакарыснае супрацоўніцтва паміж Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэтам і французскім універсітэтам Парыж-1 (знакамітай Сарбонай). Нашы студэнты, аспіранты і выкладчыкі прызвычаіліся слухаць лекцыі французскіх прафесараў без перакладу: высокі ўзровень выкладання французскай мовы ў БДЭУ дастаткова для ўспрымання студэнтамі нават самых складаных прадметаў.

У гэтым годзе адбудзецца другі выпуск франкамоўных студэнтаў БДЭУ, якія атрымаюць разам з прэстыжным дыпломам свайго універсітэта дыплом Сарбоны. Гэта будуць студэнты, якія асвоілі, акрамя навучальнай праграмы БДЭУ, і праграму універсітэта Парыж-1. Пра гэта паведаміў прафесар П'ер Кабанёльс, каардынатар праграмы з французскага боку, які чарговы раз наведаў універсітэт у Мінску з курсам лекцый і практычных заняткаў па міжнароднаму менеджменту.

Супрацоўніцтва БДЭУ з Францыяй не абмяжоўваецца Сарбонай, хоць яна і з'яўляецца прыярытэтам. Дзякуючы дамовам, якія падпісалі рэктар БДЭУ Раман Карсека і рэктары універсітэтаў гарадоў Ліёна і Манпелье, супрацоўніцтва пашырылася і на гэтыя універсітэты.

Так што для прафесарска-выкладчыцкага саставу і студэнтаў БДЭУ стала нормай, што для перадачы ведаў сюды прыязджаюць французскія выкладчыкі. Але пачынаючы з гэтага года, свой вопыт і веды "павёз" у Францыю і наш БДЭУ ў асобе дэкана факультэта міжнародных адносін Міхаіла Мішкевіча.

З канца студзеня М. Мішкевіч працуе на пасадзе прафесара універсітэта Манпелье-1 на эканамічным факультэце і выкладае на французскай мове дзве дысцыпліны: эканоміку прадпрыемстваў пераходнага перыяду — для студэнтаў II курса і манетарную эканоміку — для студэнтаў III курса. Выкладанне праходзіць у выглядзе лекцый і практычных заняткаў. Акрамя гэтага, чытае лекцыі па эканоміцы пераходнага перыяду для аспірантаў, дактарантаў і выкладчыкаў. Кантракт разлічаны на тры гады (па чатыры месяцы кожны год).

Гэта стала магчымым пасля таго, як М. Мішкевіч выйграў конкурс Міністэрства народнай адукацыі Францыі, абвешчаны сярод выкладчыкаў усіх былых сацыялістычных краін, а таксама Бразіліі, Аргенціны, Чылі, Мексікі, Турцыі, Лівана, Індыі, Кітая, Тайланда і В'етнама. Існавала вялікая колькасць прэтэндэнтаў і жорсткія крытэрыі адбору. Кандыдатам трэба было дасканала валодаць французскай мовай і мець высокія якасці выкладчыка і даследчыка. Рашэнне Міністэрства народнай адукацыі Францыі аб падпісанні кантракта менавіта з нашым выкладчыкам сведчыць, што ён гэтымі якасцямі валодае.

Водгукі выкладчыкаў, аспірантаў і студэнтаў французскага універсітэта дазваляюць ужо сёння гаварыць, што беларускі навуковец са сваёй задачай спраўляецца на "выдатна". Гэтаму спрыяе, вядома ж, і атрыманая раней адукацыя ў Сарбоне (дыплом магістра эканамічных навук).

# КІЛЕР

## АПАВЯДАННЕ

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

— НЕ РУХАЦЦА!

У цьмяна асветленым пакоі стаялі двое: сівы, згорблены стары і даволі малады яшчэ чалавек спартыўнага целаскладу. Яны стаялі нерухома... і глядзелі адзін аднаму ў твар... Потым стары ўздыхнуў і перавёў позірк на пісталет у руцэ маладога. Пісталет выглядаў амаль што цацачным, але быў ён сапраўдным.

— Не рухацца! — яшчэ раз паўтарыў малады і пагрозліва варухнуў пісталетам. — Адзін неасцярожны рух і... Ды ты і сам ведаеш гэта!

— Ведаю, — спакойна сказаў стары. — Але ж ты выстраліш, нават калі я і не зраблю аніводнага руху... Ты ж прыйшоў сюды менавіта дзеля гэтага... ці не так?

Малады адказаў не адразу. Ён паглядзеў на пісталет у сваёй руцэ, потым на старога. І зноў перавёў позірк на пісталет...

— Я нічога не маю супраць цябе, — нарэшце прагаварыў ён... І рука з пісталетам крыху апусцілася... зусім крыху... — Я, наогул, першы раз бачу цябе сення, але гэта нічога не мяняе! Разумееш, нічога не мяняе!

— Разумею! — стары раптам нечакана ўсміхнуўся... Недарэчная ўсмешка гэтая была да таго непатрэбнай, нават лішняй тут, у гэтым пакоі, што малады на імгненне разгубіўся... праўда, працягвалася гэта адно толькі імгненне. І вось пісталет зноў узляцеў уверх, на ранейшае месца, і зноў нацэліўся ў твар старому...

— Ты што?!

— Нічога! — усмешка імгненна знікла з вуснаў старога... знікла гэтак жа нечакана, як і з'явілася... — Чаму ты не выстраліў зараз?

— Чаму? — малады ўвесь час трымаў палец на курку. Ён і сапраўды мог выстраліць у любы момант, нават павінен быў гэта зрабіць, даўно ўжо павінен, але штосьці стрымлівала яго, ці то цікаўнасць, ці можа гэта ўсё ж быў страх, нейкі дзіўна-патаемны ўнутраны страх перад... Перад чым?! І хіба можна верыць у тое, чаго не можа быць, ніколі не можа быць! Пракляты Студэнт! Навошта толькі ён пачаў слухаць гэтыя яго байкі-апраўданні! Ці можа гэта ўсё ж не зусім байкі?! — Я выстралю! — малады ўсміхнуўся, дакладней, паспрабаваў усміхнуцца... І грымаса, якая на нейкае кароткае імгненне перакрывіла яго твар, усё ж крыху нагадвала ўсмешку... — Я выстралю тады, калі палічу патрэбным гэта зрабіць! Можаш нават не сумнявацца!

— Я і не сумняваюся... — стары гаварыў павольна, не спяшаючыся. Ён нібыта абдумваў спачатку кожнае сваё слова. — Чаму б я стаў сумнявацца ў сур'ёзнасці тваіх намераў...

— Я выстралю! Я зраблю тое, што мне загадалі! Я не паўтару памылкі Студэнта!

— Студэнта? — стары зноў усміхнуўся. Гэта той, што заходзіў да мяне пазаўчора? Ён што, і сапраўды студэнт?

— Быў! І якая табе розніца зараз! — пісталет па-ранейшаму глядзеў у твар старому... — Я не веру таму, што ён плёў пра цябе! Гэтага не магло быць, таго, што ён плёў!

— Вось як? — стары, здаецца, быў зацікаўлены... — І што ж ён плёў?

— Нават калі ты і валодаеш чымсьці такім, — упарта паўтарыў малады, — ведай, што гэта табе не дапаможа! Я не Студэнт!

Ён змоўк, нібыта чакаючы пярэчання... Але стары таксама маўчаў...

— Перватварыся! Перватварыся, калі зможаш і ў каго зможаш! — зноў загаварыў малады. — Перватварыся... Але і гэта табе не дапаможа сення! Чаму ты зноў усміхаешся? Ты хочаш падмануць мяне, так?! Ты хочаш паказаць, што не баішся мяне, што табе не страшна тут, зараз, — ні кропелькі не страшна... але я не веру табе! Табе страшна, вельмі страшна, ты баішся смерці, баішся яе, як і ўсе мы!!

Вусны старога слаба варухнуліся.

— Я не пераварваюся, — ціха, павольна і неяк стомлена прагаварыў ён. — Тут іншае... Я і сам не ведаю, як гэта ўсё адбываецца са мной і чаму. Але яно адбываецца нават тады, калі я не жадаю гэтага, як зараз. І мне вельмі шкада вас абодвух...

— Што?! — не верачы сваім вушам, перапытаў малады. — Табе шкада нас? Каго гэта, нас?

Але старога ў пакоі ўжо не было... Студэнт і сапраўды меў рацыю... Гэта быў цуд, нечаканы, незразумелы, папохаючы цуд, бо толькі што вось тут пад прыцэлам пісталета стаяў сівы, згорблены чалавек... І раптам, неяк адразу, замест яго, на тым жа самым месцы апынулася, невядома як і адкуль, маладая, прыгожая і вельмі спалоханая жанчына ў амаль празрыстай начной сарочцы...

— О, Божа! — прашаптала яна дрыжачым голасам...

Потым жанчына заўважыла маладога, голас яе змяніўся:

— Фрэд!

Яна кінулася да яго... І спынілася, аслупянелая, убачыўшы нацэлены пісталет.

— Фрэд, ты што?!

— Не падыходзь!

Малады павольна, асцярожна адступаў у бок дзвярэй... адступаў, пакуль не адчуў плячамі іх халодную паліраваную паверхню. Твар ягоны быў нібыта пасыпаны крэйдай, вочы амаль што вар'яцкімі...

— Не падыходзь да мяне!

Пісталет па-ранейшаму глядзеў у бок спалоханай жанчыны.

— Фрэд! — яна бездапаможна азірнулася па баках. — Дзе гэта мы, Фрэд?! Як мы апынуліся тут?

— Э, не! — голас у маладога быў хрыпаты і нейкі спалоханы... Ён хутка аблізнуў языком перасохлыя вусны... — Мяне не падманеш! Гэта ўсё ты, пракляты чараўнік, гэта ўсё твае фокусы! Але табе не ўдасца падмануць мяне, чуеш?! Гэты нумар у цябе не пройдзе!

— Фрэд! — спалоханая жанчына таксама павольна адыходзіла назад, да сцяны. — Што ты хочаш зрабіць са мной, Фрэд?!

Пісталет глядзеў ёй у твар чорным злавесным зрэнкам, рука, якая трымала пісталет, крыху дрыжала, але палец звыкла адчуваў паслухмяную пругкасць курка...

— Ты хочаш забіць мяне, Фрэд?

— Не прыкідвайся! — раптам закрычаў малады... Злосць, гнеў, адчай... І яшчэ нешта незразумелае — ці то разгубленасць, ці то асуджанасць прагучалі адначасова ў хрыпатым, зацкаваным ягоным голасе. — Гэта не ты! Адкуль табе было ўзяцца тут, у гэтым пакоі... адной... сярод ночы?! Як ты знайшла мяне тут... адкуль табе было ведаць, дзе мяне шукаць менавіта сення і менавіта зараз?! Ты нават не ведала, што я вярнуўся! Што ж ты маўчыш! Адказвай, калі табе ёсць што адказаць! Як ты апынулася тут зараз?!

Маладая жанчына зноў бездапаможна азірнулася вакол.

— Не ведаю! — ціха сказала яна. — Я, праўда, нічога не ведаю, Фрэд! Я лягла ў ложак... я ўжо засынала... Мне страшна, Фрэд! Мне вельмі страшна!

— Мне таксама страшна! — зноў закрычаў малады, і голас ягоны сарваўся... пот струменьчыкамі сцякаў па збляклым перапалоханым твары... рука з пісталетам дрыжала ўсё мацней. — Мне страшна і мне хочацца табе верыць! Але калі я не выканаю загад, мяне чакае тое ж, што і Студэнта! Разумееш, мяне чакае тое ж, што і яго... Мне ніхто не паверыць... я і сам не паверыў яму пазаўчора... Што мне рабіць, як мне быць зараз?.. дапамажы мне, падкажы хоць што-небудзь, калі гэта і сапраўды ты... О, Божа, чаму я не стрэліў адразу ж, як толькі ўбачыў сюды!

Ён змоўк... І нарэшце апусціў пісталет... Жанчына вачыма, поўнымі жаху, глядзела яму ў твар... а пісталет у любы момант мог зноў апынуцца ў ранейшым становішчы... І палец па-ранейшаму адчуваў пругкасць курка... І было яшчэ шмат розных варыянтаў далейшага развіцця падзей... А ў рэшце рэшт гэтых варыянтаў заставалася толькі два... ва ўсялякім разе ніяк не больш двух...

## КРЫЖАВАНКА




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.**

5. Вакальна-інструментальны ансамбль Беларускай дзяржаўнай філармоніі, створаны ў 1969 годзе. 6. Фільм рэжысёра кінастудыі "Савецкая Беларусь" Э. Аршанскага (выпуск 1937 г.) 10. Дзеючая асоба ў аперэце І. Штрауса "Лятучая мыш". 11. Італьянскі горад, ва універсітэце якога ў 1512 годзе атрымаў вучоную ступень доктара медыцыны Ф. Скарына. 12. Знакаміты беларускі кампазітар XX стагоддзя, аўтар музыкі да верша А. Бачылы "Радзіма мая дарагая". 15. Сучасны беларускі празаік і драматург, аўтар рамана "Крык на хутары". 18. Сучасны беларускі журналіст, аўтар перадачы на нацыянальным радыё "Смяецца не грэх". 19. Армянскі кампазітар, заснавальнік класічнай музыкі, фалькларыст, харавы дырыжор. 20. Беларускі савецкі драматург XX стагоддзя, рэжысёр, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага тэатра. 21. Імя беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата, які ў 1862—1863 гадах выдаваў нелегальную газету "Мужыцкая праўда". 24. Спецыяліст у якім-небудзь рамястве, у якой-небудзь галіне вытворчасці. 26. Народны артыст Беларусі. У 1962—1969 гадах — галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР. 27. Гарадскі пасёлак Мінскай вобласці, у якім знаходзіцца фабрыка мастацкай керамікі і вышыўкі. 31. Сучасны беларускі эстрадны спявак, мастацкі кіраўнік ансамбля "Сябры". 33. Песня І. Лучанка на верш А. Куляшова. 34. Музычны жанр. 35. Кніжнае выдавецтва ў Мінску. 37. Імя беларускага кампазітара і фалькларыста XX стагоддзя Чуркіна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.**

1. "Там зліткі золата былі, і... і каралы" (М. Танк). 2. Беларускі пісьменнік XIX—XX стагоддзяў, першы зборнік якога меў назву "Абразкі". 3. Беларускі кампазітар, народны артыст СССР, аўтар музыкі да балета "Маленькі прынц". 4. Беларуская пісьменніца XX стагоддзя, якая ў 1911 годзе выступіла з абразкамі ў "Нашай ніве" пад псеўданімам Мірко. 7. Сучасны беларускі кампазітар, аўтар музыкі да балета "Рагнеда". 8. Гераіня твора Стэндаля. 9. Сучасны беларускі кампазітар, аўтар песень "Вераніка", "Верасы" і інш. 13. Беларускі драматург, аўтар п'есы "Простая дзяўчына". 14. Сучасны рускі кампазітар, аўтар песні "Белавежская пушча". 16. Адзін з кіраўнікоў барацьбы за незалежнасць іспанскіх калоній у Амерыцы. 17. Музычны твор амерыканскага джазавага кампазітара XX стагоддзя Д. Элінгтона. 22. Струнны ўдарны музычны інструмент — адзін з асноўных народных інструментаў на Беларусі. 23. Від тэатра, які займае прамежкавае становішча паміж операй і драмай. 25. Аўтар і вядучая перадачы на Нацыянальным радыё "Вечары на канапе". 28. Тэмп выканання музычнага твора. Вельмі хутка. 29. Сапраўднае прозвішча народнага паэта Беларусі М. Танка. 30. Беларускі паэт, аўтар вершаў, якія сталі песнямі: "Памяць сэрца" і інш. 32. Беларускі кампазітар XX стагоддзя. Аўтар песні "Бывайце здаровы".

**Склала Любоў ЮНАВА.**

## РАБІ, ЯК Я



**Сярод аматараў аздараўленчай аэробікі ў Гомельскай вобласці лідэрам з'яўляецца каманда спартыўна-тэхнічнага клуба "Старт" Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Гордасць каманды — Уладзімір КУНДАС, Вераніка МАРЦЯШЫНА і Андрэй ШЧУРЫК (справа), якія сталі абсалютным чэмпіёнам вобласці ў асабістым заліку.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ЖАРТАМ ЦІ ЎСУР'ЁЗ?

# БЕЛАРУСЫ ЎСТУПІЛІ АНДОРЫ

Зборная Беларусі па футболу правяла чарговы таварыскі матч. Сапернікамі нашай каманды стала зборная Андоры. Аднак беларусы не здолелі паказаць выніковую гульню і ўступілі 0:2.

Гэта ўжо трэцяя сустрэча нашай зборнай у бягучым годзе. Дагэтуль яна перамагла (3:0) другі састаў нямецкага "Штутгарта", а затым прайграла зборнай Балгарыі 1:4. Матч з андорцамі галоўны трэнер Сяргей Бароўскі расцэньваў як падрыхтоўчы этап да адборачнага цыкла чэмпіянату свету 2000 года і перамогу галоўнай задачай не ставіў.

Зборная Андоры праводзіла 24-ты матч у сваёй гісторыі. Да гэтай гульні яна не атрымала ніводнай перамогі. Акрамя таго, андорцам не ўдавалася забіць у вароты сапернікаў больш за адзін мяч.

У гэтым сезоне беларускай камандзе давядзецца правесці яшчэ дзве таварыскія гульні: чацвёртага чэрвеня са зборнай Эстоніі і ў жніўні са зборнай Балгарыі.

**Павел САМЕЦ.**

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Тацдяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Тацццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1300.
Падпісана да друку 22.5.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).